## вось апошні за гарамі




Вось апошні за гарамі
промень сонца згас.
Госпадзе, застанься з намі,
не пакінь ты нас.

Бо ідуць з начною цемрай
злыдні, сум і жах,
толькі Ты, наш Сторак верны,
праганяеш страх.

Пастухі авечак пояць
і вядуць дамоў.
Пастыр наш, вадой жывою
дух наш аздароў.
Зарнасьць адвярні зямную,
сэрца супакой;
Хай наш мірны сон пільнуе
добры ангел Твой.

Змрок халодны пакрывае
сонную зямлю.
Хітры вораг прыступае
нам псаваць ральлю.
Падкрадаецца зьнянацку -
шкоду нам зрабіць;
захавай Ты нашу працу,
як павінна быць.

Вось апошні за гарамі
промень сонца згас.
Госпадзе, застанься з намі,
цяжка нам ня раз.
Калі сьмерці ноч настане,
духу будзь сьвятлом,
і вазьмі нас ад блуканьняў
у нябесны дом.

## на пачынаньне - малітвы - зранку

Госпадзі Ісусе Хрысьце, адзінародны Сыне адвечнага Твайго Айца, Ты мовіў найчысьцейшымі вуснамі Тваімі — без мяне ня зможаце тварыць нічога. Госпадзі мой, Госпадзі, зь верай у душы маёй і ў сэрцы ва ўсё, што сказаў Ты, прыпадаю да міласьці Тваёй: дапамажы мне, грэшнаму, гэтую справу дзеля Цябе самога споўніць, якую і пачынаю ў Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амінь.

Да Цябе, Уладыка, Чалавекалюбца, ад сну ўстаўшы прыбягаю і за справы Твае прыймаюся па міласэрдзю Твайму і малюся Табе: дапамажы мне ва ўсякі час і ва ўсякай справе і захавай мяне ад усякага злога ўчынку і д'ябальскай спакусы і ўратуй мяне і ўвядзі ў царства Твае вечнае, бо Ты ёсьць мой стварыцель і ўсякага дабра прамысьліцель і падацель, на Цябе ўся надзея мая і Табе хвалу ўзношу цяпер і заўсёды і ў вякі вечныя. Амін.

## малітва сьпеў

Сьвяты Божа, Сьвяты моцны,
Сьвяты, а бязьмерны,
зжаліся над намі!

Ад нашэсьця голаду, агню
і вайны, барані нас, Божа!

Ад раптоўнай і неспадзяванай сьмерці
сьцеражы нас, Божа!

Каб ураджай нашай зямельцы
даць і яго захаваць,
Цябе молім, Божа!

Мы, грэшныя, Цябе, Бога, прасілі,
паслухай нас, Божа!

## хрыстос

Сам—нясьцерпнае зьзяньне —
у зьзяньні,
сьмерцяй сьмерць растаптаўшы
ушчэнт,
Ён ішоў, незагойныя раны
на чале ірдзелі яшчэ...
У дзівосным сьвятым захапленьні
Богу Сыну малілася ўсё:
агарож прыдарожных камені,
маладых ячмянёў каласьсё,
Цёплы вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў і сонечны пыл...
І трава, што прабітыя ногі
цалавала, схіліўшы сьцяблы...І.

## ...

О, Крыўя - не! Цябе ня зморуць.
Ты зноў засьвецішся знутры,
як па крывіцку загавораць
з табой Хрыстовы сьвятары.

Самотным прывідам сьвятару
ля канфармісцкіх пустыроў,
запальваю сьвятую мару -
стварыць крывіцкіх сьвятароў!

Зьніч

## ён прыйдзе

Ён прыйдзе, інакш быць ня можа,
наш Месія новы Хрыстос.
Ён прыйдзе, бо спалены душы,
хоць сэрцы шчэ тлеюць,
ды топіцца ў брудзе
распусных чужынцаў
наш край і народ.

Ён прыйдзе, інакш быць ня можа,
бо зь Немана й Прыпяці
п"ём не ваду, а атруту.

Хрыстос Беларусі дасьць веру
ў ачышчаны храм і ўзыйдзе
на крыж, каб крывёю сваёю
нас адрадзіць. С.П.

## благаньне

Божа адзіны сьвяты ўсемагутны,
край наш ад бедаў, навал заслані;
люд беларускі, вякамі пакутны,
зноўку да волі і шчасьця вярні.

Дай нам магутнасьць, адзінства
ды сілы,
каб адрадзіць і падняць Беларусь,
што зацкавана ля самай магілы
моўчкі стаіць, б'е паклоны камусь.

Шчырасьцю сэрцаў і розуму ўзмахам,
верай і воляю нашай кіруй.
Праўдай зьмяні ненавісную плаху.
Сэрцам благаем — даруй! В.С.

## даруй

Даруй, о Божа, мне за ўсё,
што я рабіў ня так, як трэба,
што жыў, як тое парасё,
над галавой ня бачыў неба.

Даруй, што зь Іменем Тваім
я не будзіў дачасна сьпячых,
даруй, што быў сьляпым і злым
і шляху вернага ня бачыў.

Што я Цябе не заўважаў
сярод праяў жыцьця зямнога.
Цябе я часта пакідаў,
а Ты чыніў дабра мне многа.
Даруй, што Твой духоўны дар
я не лічыў узнагародай,
у чарадзе варожых хмар
губляў гадзіны, дні і годы.
Даруй мне, Божа, і пачуй
мой сьпеў, маё малое слова.
Ад злых шляхоў мяне ратуй
ды зьберажы ад духа злога.
А.Н.

## паўз могілкі

Паўз могілкі мая дарога,
Штодня — заходам і сьвітаньнем
твой крыж вітаю адвітальна.
Даруй-даруй! Усё — ад Бога.

Рука ў жагнаньні стыне строга
над мейсцам нашага расстаньня.
А наўздагон — тваё маўчаньне.
Не наракай! Усё — ад Бога.

Самотных дзён у нас нямнога.
Ужо ўзыходзіць знак астральны
над мейсцам нашага спатканьня.
Прымі-прымі! Мне — ад Бога.

Малжонка

## ...

Чалавек можа
быць збаўлены
адной дабрынёю,
калі ён нават ня
ходзіць маліцца
у касьцёл або
у царкву. . .

## за мову

Шчэ пазнаюць беларусаў па шчырасьці ў сьвеце,
Вочы да неба праз ноч, мой народ, узьнімай.
Божа! Ці ж годныя мы, каб за людства памерці?
Толькі самім ад сябе адрачыся ня дай!

Згублены мы між засохлых балотаў, прылукаў,
мовім на мовах чужых са сваімі дзяцьмі.
Божая Маці, ці ж вартыя мы сваіх мукаў?
Дух умацуй нам, каб мы засталіся людзьмі!

Не заслужылі цярпеньнем Вялікай Нядзелі,
не прывяла дабрыня ў Божага войска палкі...
Дык высылай нас, о Божа, на ганьбу, на зьдзекі,
мову тутэйшым палеткам і птахам пакінь!

# У Наваградку

Фарны касьцёл у Наваградку пабудаваны ў 1712-23 на меісцы закладзенага ў 15ст., дзьве капліцы якога ўвайшлі ў кампазіцыю касьцёла. Тут хрысьцілі Адама Міцкевіча. Ягайла вянчаўся з Зоськай Гальшанскай. На мемарыяльнай дошцы ўся гісторыя Ягелонаў. У капліцы Боскага цела мемарыяльная пліта па заказу капталяна Яна Рудаміна ўстаноўлена ў 1643г. у памяць аб загінуўшых у баі пад Хоцінам у 1621г. суседзях і браце. 9 укленчаных фігур і Ян Рудамін, які застаўся адзін. Унізе фігуры туркаў з адсечанымі галовамі. Уверсе рэльеф Маці Боскай і лацінскі тэкст.

На дзядзінцы касьцёла магіла сёстраў-назаратанак, расстраляных фашыстамі ў лесе.

Сьціплы прыгожы касьцёл на суседнім пагорку з замкам першай сталіцы Вялікага княства.

Будынак Міхайлаўскага касьцёла ў будаўнічым лесе. На даху некалькі рэстаўратараў. І тых часта здымаюць на іншыя аб"екты. Цэглу на знадворкавую будову даюць для кладкі ўнутры памяшканьняў. Рэстаўравацца касьцёл будзе доўга.

На могілках у Наваградку сярод сьмецьця, адчынены магільныя склепы, з пахавальняў зьнікаюць труны. Адна магіла з надпісам на беларускай мове:

Ахвярнаму працаўніку Наваградзкай беларускай гімназіі 1923-1933 ад калегаў, прыяцеляў і вучняў

Миловъ Евгений Рафаилович

3.3.1887-31.5.1933

Быў матэматыкам, вывучыў беларускую мову за паўгода.

Помнік Адаму Міцкевічу, які стварыў Валерый Янушкевіч, не пастаўлены, недзе на складзе...

* * *

Касьцёл Сьвятога Казіміра ва Уселюбе, пабудаваны Неміровічамі ў стылю готыкі ў 1433г., не занесены ў Збор помнікаў архітэктуры Беларусі.

У 60-я гады, пры Хрушчове, касьцёл ператварылі ў спартыўную залю, але настаўніку зьявілася Матка Боская і ён адмовіўся працаваць у той залі. Улады вырашылі касьцёл спаліць, але ніхто, нават бяздумныя дзеці, не згаджаўся паліць касьцёл.

Падпальшчыка знайшлі ў Навагрудку ў 1968г. Спаліў за плату 150 рублёў і сам утануў у Нёмане ў тое лета, і ніхто не памятае яго імя.

Каб людзям аддалі спалены Уселюбскі касьцёл, то яны сабралі б грошы і аднавілі б яго. На крыжы каля касьцёла малітва з Апакаліпсісу: "Ад паветра, голаду, вайны і мору, выбаў нас, Пане!" Але ад злых людзей выбавіць ня можа нас Божа Сьвяты.

А на могілках ва Уселюбе капліца стаяла, пахавальная царква. Толькі сьцены ад яе засталіся. У мінулым годзе ксёндз наваградзкі Антоні талаку клікнуў, вынесьлі горы сьмецьця са старых могілак. Але склеп у стылю клясіцызму, у якім пахаваны паны Еркі, рабаўнікі ўзламалі, труну расплюшчылі, глядзець страшна, так збыткуюцца над людзкімі костачкамі...

Уселюбчанка

* * *

Да 1939г. касьцёлы Гродзеншчыны падпарадкоўваліся Віленскай епархіі. Цяпер тыя касьцёлы, што за Нёманам, належаць да Ломжынскай епархіі, а тыя, што на правы бок Нёмана — Беластоцкай.

За ўплывы на касьцёлы Беларусі змагаецца польскае, літоўскае ды латвійскае духавенства.

* * *

Касьцёл сьв. Андрэя ў Слоніме, збудаваны ў 1775 на месцы касьцёла 1490г., пашкоджаны вайной 1915, адбудаваны ў 28-29, дзейнічаў да 40, перажыў вайну. У 1950г. зрабілі склад солі. Соль застыла скалой і разьела мураваныя сьцены. Пачаў праваливацца дах.

* * *

Архімандрыт Жыровіц Стэфаній несьвядома размаўляе на беларускай мове. Калі ж запыталіся, што ён думае аб пераводзе набажэнства на мову, то рэзка адрэчыў: не бачыць у гэтым патрэбы, царква традыцыйна карыстаецца стараславянскай мовай.

Маці Цудатворная Жыровіцкая, ці ж для таго зьявілася на грушцы перад мясцовымі пастушкамі, каб яны не маглі з Табой размаўляць на роднай мове?

* * *

На зьнесеных амаль што могілках у Лідзе суполка "Рунь" апякуецца магілай удзельніцы паўстаньня 1863г. На пліце і на крыжы надпіс:

Валерыя Цехановіч з Цыбульскіх, удзельніца паўстаньня 1863. Жыла 92 гады, памерла ў Лідзе 23 студзеня 1933г.

Лідскія бюракраты лічаць, што гэта не дакумант.

* * *

У Мазырскай раённай газэце "Камуніст Палесься" за 14.04 зьмешчана аб"ява: 15.04 у вёсцы Юравічы ў будынку былога манастыра праходзілі спаборніцтвы па скалалазаньню і горнаму турызму на першынства Мазыра. Таксама і 16 красавіка...

У заключным дакуманце Венскай канфэрэнцыі аб бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе гаворыцца, што грамадзянам, установам і арганізацыям, захоўваючы права на інтэлектуальную ўласнасьць, у тым ліку аўтарскае права, — дазваляецца мець, размнажаць, пашыраць інфармацыйны матэр"ял усялякага роду.

Дакумант падпісаны 35 дзяржавамі, у тым ліку СССР.

# Жыровіцы

Прыехаць у Жырова лёс мне выпаў,
дождж хрысьціць голаў грэшную маю.
І я пад гольлем шматвяковай ліпы
пільгрымам сьціплым спцішана стаю.

Побач сьвятыні белыя, як дзіва,
ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.
Ідзе сьвятар, бы галубочак сівы,
стаміўшыся,
на лаўку хтось прысеў.

Сюды травой, аброшанай і мяккай,
на цудатворны пераможны зоў
йдуць людзі з горам, болем
і падзякай
нясуць з сабою веру і любоў.

Перада мной зямля наша сьвятая.
Стаяць ў паклоне дрэвы над вадой
дзе галубы бясшумна пралятаюць,
ступала Маці Божая па ёй.

Не знатнасьць, пастушкі яе віталі
Прыйшла да нас ў вясьняны дзень
знарок,
і краю міламу, каб лепшымі мы
сталі,
пакінула на дрэве абразок.

Над намі храм, туманныя нябёсы.
Крынічанька пад храмам
б"е з зямлі.
Як пастушок ў кашульцы белай,
босы,
стаю, і слёзы твар мой залілі.

Адданасьцю стукочуць нашы сэрцы.
З крыніц благаславенных
праўду піць.
Мінуласьці сьвятой зь зямлі ня
сьцерці
і веры ў Бога ў сэрцы не спыніць

Жыровічы, славутая мясьціна,
здаўна пракладзены для нас
дзядамі шлях,
Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну
мы на тваіх складаем алтарах.

Хай будзе мір ды згода будзе
ўсюды.
Усё ж калі грозьбай азарыцца сінь
нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,
у сваёй апецы, Божа, не пакінь!

Ларыса Геніюш.

* * *

Хто не шануе родную мову, той не шануе сябе самога, ні свой род, ні сваіх дзядоў, бацькоў, каторыя тэй жа мовай гаварылі.

А хто стыдаецца роднай мовы, варт таго, каб і яго добрыя людзі стыдаліся, як вырадка, бо стыдаючыся роднай мовы ён крыўдзіць ня толькі дзядоў, бацькоў, але і ўвесь народ беларускі.

Вацлаў Ластоўскі